БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

7 чэрвеня 1994 г.
Аўторак
№ 61(13778)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года






## Кур'ер "ЧЗ"

### Ракеты "адварочваюцца"

*Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША распаўсюдзіла прэс–рэліз, у якім паведамляецца, што 31 мая яно звярнулася ў Савет нацыянальнай бяспекі ЗША з просьбай пацвердзіць, што з гэтага дня стратэгічныя ракеты ЗША не нацэлены на Беларусь, у сувязі з тым, што ў амерыкана–расійскай заяве ад 14 студзеня 1994 года было заяўлена аб намеры прэзідэнтаў абедзвюх краін спыніць нацэльванне сваіх стратэгічных ракет да 30 мая 1994 года.*

Дзяржаўны дэпартамент пацвердзіў пасольству, што нацэльванне ўсіх амерыканскіх стратэгічных ракет спынена, у тым ліку і на Беларусь, з тэрыторыі якой цяпер выводзяцца стратэгічныя ракеты Расіі.

### За роўныя магчымасці

*У пятніцу, 3 чэрвеня, у Мінску адбыўся брыфінг для журналістаў, які правёў грамадскі камітэт "За роўныя магчымасці". Прадстаўнікі гэтай арганізацыі падкрэслілі, што, на іх думку, для прэтэндэнтаў створаны няроўныя магчымасці барацьбы за пасаду прэзідэнта.*

Грамадскі камітэт "За роўныя магчымасці", адным з сустаршынь якога з'яўляецца вядомы пісьменнік Іван Чыгрынаў, распаўсюдзіў сярод журналістаў заяву. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: "Выклікаюць насцярожанасць і трывогу за будучыню беларускай дэмакратыі факты прамога адміністрацыйнага націску на сродкі масавай інфармацыі і асобных журналістаў, якія выступаюць з крытыкай афіцыйнай палітыкі ўрада...".

Далей адзначаецца, што камітэт рашуча выступае супраць манаполіі на сродкі масавай інфармацыі і адміністрацыйных метадаў кіравання імі.

Грамадскі камітэт "За роўныя магчымасці" звярнуўся да Цэнтральнай выбарчай камісіі, Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека з заклікам забяспечыць поўную адпаведнасць ходу прэзідэнцкай кампаніі патрабаванням закона "Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".

### Лукашэнка трапіў у аварыю

*Другі этап перадвыбарнай кампаніі кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі пачаўся з аўтамабільнай аварыі.*

Аляксандр Рыгоравіч трапіў у яе 2 чэрвеня па дарозе да выбаршчыкаў у Гродна. На шчасце, усё абышлося без сур'ёзных вынікаў.

БЕЛІНФАРМ.

### У госці да Ефрасінні

*Кожны год 5 чэрвеня ў старажытны Полацк едуць тысячы праваслаўных на дні святкавання святой Ефрасінні Полацкай.*

Больш як восем стагоддзяў аддзяляюць нас ад славутай асветніцы, якая ў дванаццаць год адвергла шлюб і ўсё жыццё прысвяціла служэнню Богу. Але і сёння вельмі сучаснымі з'яўляюцца памкненні святой Ефрасінні — жыць у міры, згодзе, узаемнай павазе адзін да аднаго.

На свята ў Полацк прыехаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт і Старшыня Саўміна Вячаслаў Кебіч, які, дарэчы, паабяцаў, што ўрад дапаможа, па-першае, знайсці сродкі на стварэнне Крыжа Ефрасінні і, па-другое, адшукаць той сапраўдны Крыж і вярнуць яго на Радзіму.

Майя ШЭНДРЫК.

### Няма "пакупніка" для выпускніка

*Віцебскі аблвыканкам, савет абласнога аб'яднання прафсаюзаў і аб'яднанне наймальнікаў стварылі каардынацыйны камітэт па распрацоўцы праектаў нарматыўных дакументаў, накіраваных на ўзмацненне эканамічнай зацікаўленасці наймальнікаў у арганізацыі рабочых месцаў, а таксама на забеспячэнне працаўладкавання маладых грамадзян.*

Прычынай стварэння такога камітэта стала няздольнасць навучальных установаў вобласці самастойна знайсці "пакупнікоў" для 679 выпускнікоў інстытутаў, 1253 — тэхнікумаў і 1811 — выхаванцаў ПТВ. Акрамя гэтага свабоднага "тавару", што з'явіцца на рынку беспрацоўя праз месяц-паўтара, толькі за апошнія дзесяць месяцаў у абласны цэнтр занятасці насельніцтва з просьбай працаўладкавання звярнуліся 2273 выпускнікі ВНУ, сярэдніх спецыяльных і агульнаадукацыйных школ. Уладкаваны на работу пакуль што толькі 1121 чалавек.

Яўгенія ВІЦЬБА.

### Не толькі паглядзім...

*Сёння ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры адкрываецца міжнародная выстава "Беларускамп'ютэл, Беларусбанк, Беларусаргадата–94".*

У выставе бяруць удзел больш як 70 фірм з 15 краін, што займаюцца дзейнасцю ў галіне тэлекамунікацый, інфарматыкі і банкаўскіх тэхналогій. Разам з такімі сусветна вядомымі гігантамі як "IBM", "Сіменс", "Аліveці", "Філіпс", тут будуць прадстаўлены і беларускія прадпрыемствы — ВА "Інтэграл", Мінскае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі, прадпрыемства "Прамсувязь".

Пад час выставы адбудзецца таксама міжнародны кангрэс па аналагічнай тэматыцы.

(Ул.інф.)

### А ты набыў газавы пісталет?

*Мінская гарадская асацыяцыя "Насельніцтва за бяспеку" з 7 па 10 чэрвеня ў памяшканні "Белпраекта" праводзіць чарговую міжнародную выставу–кірмаш "Мінск. Бяспека–94".*

Як паведаміў карэспандэнту "ЧЗ" Мікалай Галашаў, кіраўнік прэс-бюро асацыяцыі, наведвальнікі выставы пазнаёмяцца з найноўшымі айчыннымі і замежнымі дасягненнямі ў галіне абароны людзей, маёмасці, каштоўнасцей ад злачынных замахаў, супрацьпажарнай бяспекі, бяспекі працы, аховы навакольнага асяроддзя. Усе жадаючыя змогуць атрымаць кансультацыі аб парадку набыцця, захавання і прымянення газавай зброі.

Святлана КУЛІКОВА.

### Замест Дома састарэлых – Дом культуры

*Пасля доўгай і працяглай будоўлі Дом састарэлых у калгасе імя Сільніцкага Полацкага раёнаператварыўся ў Дом культуры.*

З гэтай нагоды ў гаспадарцы адбылося свята, з урачыстым пераразаннем стужкі, з прамовамі і віншаваннямі. Прыемна, што ў наш цяжкі час гаспадарка ўсё ж знайшла сродкі для беднай культуры.

### Хто будуе, той не бядуе

*Будаўнічае ўпраўленне Лукомскай ДРЭС адзначыла сваё трыццацігоддзе. З гэтай нагоды тут адбыўся ўрачысты вечар.*

Зараз новалукомскія будаўнікі ўзводзяць трэцюю лінію электрастанцыі.

Уладзімір МІХНО.

**Курсы валют на 6 чэрвеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 20905 | 21500 | 12580 | 13000 |
| "Прыор" | 21100 | 21400 | 12820 | 13000 |
| "Пошук" | 21100 | 21700 | 12800 | 13100 |

## ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Захоўваць старое, шукаць новае

## Адбыўся XXXI з'езд Саюза моладзі Беларусі

☐ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

Сённяшняя маладзёжная палітыка дзяржавы не вызначана, бадай, таксама, як і ўсё астатняе. Тлумачэнне простае: маючы стабільнае "ўчора", ідэі якога сканалі, бо не мелі неабходнага развіцця, сёння мы не маем наогул ніякага ідэалу, не маем упэўненасці ў заўтрашнім дні, контуры якога няясныя і шляхі да якога пакуль незразумелыя. Каб вызначыць шляхі развіцця Саюза моладзі Беларусі і вырашыць шэраг арганізацыйных пытанняў, і сабраўся чарговы з'езд гэтай арганізацыі ў суботу і нядзелю на мінулым тыдні.

Калі параўноўваць з папярэднімі з'ездамі, складваецца ўражанне: былым камсамольцам бракуе аптымізму. Стары ідэйна ўзвышаны адзіны стрыжань, які працінаў арганізацыю, страчаны, новы пакуль не знойдзены. Хаця заклікі шукаць новыя ідэі і не былі такімі ўжо гучнымі на з'ездзе.

У параўнанні з іншымі маладзёжнымі арганізацыямі рэспублікі СМБ знаходзіцца адначасова і ў моцным, і ў слабым становішчы. Моцным: таму што можа апірацца на былую матэрыяльную базу і, галоўнае, шматгадовы вопыт работы з моладдзю. Слабым: паколькі ў свой час вытрываўшы націск перамен, арганізацыя захавалася, змянілася настолькі, наколькі магла, каб не прыйсці да самаразбурэння, але для многіх па-ранейшаму атаясамліваецца з былым камсамолам.

Апошнім часам усё часцей узнікаюць спрэчкі наконт таго, якім маладзёжным арганізацыям належыць будучыня: моцным, шматлікім, са сваімі структурамі і матэрыяльнай базай ці дробным? Аднак відавочна, што пры тых умовах, якія ў нас цяпер склаліся (маладзёжная палітыка ў заняпадзе, уладам не да моладзі), магчыма, толькі ўплывовая арганізацыя можа прыцягваць увагу вярхоў да праблем моладзі. Нягледзячы на страчаны імідж, СМБ усё ж здолеў захаваць у сваіх шэрагах больш за сто тысяч юнакоў і дзяўчат. На сённяшні дзень, калі сістэма працы з моладдзю падарваная менавіта на месцах, у абсалютнай большасці раёнаў той жа Мінскай вобласці існуюць толькі структуры СМБ.

СМБ заняў сваю нішу ў працы з моладдзю. Як яе захаваць — пра гэта і ішла размова на з'ездзе. Час надзвычай палітызаваны, але па закону грамадская арганізацыя не можа займацца палітыкай. Тым не менш на з'ездзе гучалі асобныя заклікі падтрымаць кагосьці з кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі, вызначыцца, з кім СМБ. Пытанне фінансавання арганізацыі — таксама даволі складанае. Ці павінна ісці фінансаванне зверху ўніз, у той час як нідзе ў свеце грамадская арганізацыя так не фінансуецца. З'езд прыняў папраўкі ў Статут, згодна з адной з іх лёс уласнасці СМБ можа вырашацца толькі на з'ездзе, падтрымаў у заяве радыёстанцыю "Беларуская маладзёжная", выбраў новага першага сакратара ЦК — Сяргея Дароніна і новага старшыню Цэнтральнай кантрольнай камісіі ЦК СМБ — Алу Шамасаву. Інтэрв'ю з С. Дароніным чытайце ў бліжэйшых нумарах "ЧЗ".

## ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

# Прэзідэнт не павінен быць бедным

Прэзідэнт можа быць толькі панам, таму што прынцып дэмакратыі страчваецца не толькі тады, калі знікае дух роўнасці, але таксама і тады, калі дух роўнасці даводзіцца да крайнасці і кожны хоча быць роўным з тым, каго ён абраў у свае кіраўнікі. У такім выпадку народ адмаўляецца прызнаць ім жа самім прызначаную ўладу і хоча ўсё рабіць сам: кіраваць замест чыноўнікаў і судзіць замест суддзяў.

Прэзідэнт не можа быць роўным тым, хто яго абраў, – ён не можа быць таварышам, ён Пан. У гэтым дух дэмакратыі.

А калі няма палітычнай фігуры, якую народ прызнаў бы сваім Панам, то і выбары праводзіць рана.

Але паколькі з двух дрэнных палкаводцаў адзін усё роўна выйграе бітву і нам так ці інакш прыйдзецца выбіраць прэзідэнта, я буду галасаваць за В.Кебіча. Хаця б таму, што фактычна прэзідэнт і будзе ўзначальваць выканаўчую ўладу або ва ўсякім разе ўдзяляць гэтаму шмат увагі. І самы прафесіянальна падрыхтаваны кандыдат – Вячаслаў Францавіч. Дзеянні гэтага палітыка прадказуемыя і прагназуемыя. Ён не здзівіць нас крайнасцямі, пошукамі ворагаў, уражлівымі выкрываннямі раённага маштабу. Таму што гэта вопытны і прафесіянальны палітык. Я не хачу, каб кухарка кіравала дзяржавай. Я не хачу, каб зноў з'явіўся "ўсесаюзны староста", якога адарвалі ад плуга і пасадзілі ў крэсла прэзідэнта.

Матэрыяльнае і сацыяльнае становішча цяперашняга прэм'ер-міністра дастаткова трывалае і ўладкаванае. Калі некалі і былі праблемы, то я спадзяюся, да гэтага часу яны ўжо вырашаны. Ну, а калі прыйдзе новы, неўладкаваны прэзідэнт з такой жа незабяспечанай камандай, то першае, што яны будуць рабіць, – гэта ўладкоўваць сваё жыццё і жыццё сваіх блізкіх і сяброў, выкарыстоўваючы ўсе льготы і магчымасці. Чалавек справядлівы тады, калі яму гэта выгадна, гаварыў Гельвецый, і таму зайздрасць заўсёды насіла імя справядлівасці. Барацьба за справядлівасць бедных палітыкаў, надзеленых уладай, можа прыняць ненармальныя формы і стаць адзіным клопатам і мэтай усяго жыцця.

Я буду галасаваць за В.Кебіча таму, што гэты чалавек мае мужнасць карыстацца ўласным розумам, адстойваць уласныя погляды. Я галасую за Кебіча таму, што гэты палітык, спадзяюся, не будзе перашкаджаць народу накарміць сябе. Гэта зараз адзінае, што ад яго патрабуецца. Не перашкаджаць! Не нашкодзіць якім-небудзь недарэчным указам або думкай. Няхай гэтаму прынцыпу не здрадзіць і наш першы прэзідэнт.

Валеры АРЛОЎ.

## ПАДПІСКА-94

# Выбіраю "Чырвонку"

Нядаўна вярнуўся з дома адпачынку "Нарач". Там разам з іншымі газетамі я купляў на працягу 10-ці дзён газету "Чырвоная змена". І ведаеце... даволі цікавае выданне! Заўтра іду падпісвацца на газеты і абавязкова выпішу вашу. Яна мне падабаецца тым, што матэрыялы, апублікаваныя тут, заснаваны толькі на дакументальных фактах, а не на чутках. Магу свабодна чытаць на беларускай мове. З 1946 года жыву ў Беларусі. Дарэчы, я з'яўляюся няштатным карэспандэнтам газеты "Магілёўская праўда".

Асноўная мая "спецыялізацыя" – фатаграфія. Мае любімыя тэмы – футбол і тэатр. Можа і з вамі будзем супрацоўнічаць? Таму што ў вашай газеце знаходзіцца месца і спорту, і мастацтву.

Цікавая газета, гавару вам шчыра. А я і не ведаў. Думаў, што яна для піянераў. Прычым, месца для публікацый вы прадастаўляеце ўсім, незалежна ад іх светапогляду, а таксама палітычных поглядаў.

З павагай В.А.КУСТАЎ.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

| Кошт | падпіскі | _____рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | _____рублёў. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"




### КІНАЗОРКА–ДЭМАНСТРАНТКА

*Амерыканская кіназорка 60–х Брыджыт Бардо, цяпер — актывістка руху ў абарону жывёл — узначаліла пікетаванне штогадовага кангрэса паляўнічых у мястэчку Сан–Трапэз.*

Яна і яшчэ 300 дэманстрантаў выкрыквалі шматлікія знявагі ў адрас паляўнічых. Брыджыт пагражала пакінуць мястэчка, у якім жыве з 1958 года, калі кангрэс будзе прадоўжаны там.

### СТАТУЯ СВАБОДЫ ПА–КІТАЙСКУ?

*Прыхільнікі дэмакратыі ў Кітаі адзначылі пятую гадавіну крывавай бойні на плошчы Цянаньмен адкрыццём дакладнай копіі статуі багіні дэмакратыі, устаноўленай дэманстрантамі ў Пекіне.*

Сапраўдная статуя была разбурана танкам 4 чэрвеня 1989 года ў час падаўлення кітайскай арміяй антыўрадавай дэманстрацыі. Як адзначаецца, яна вельмі падобна на амерыканскую статую Свабоды.

### ЗА ГІБКІ САЮЗ

*Прэм'ер–міністр Вялікабрытаніі Джон Мэйджар заявіў у інтэрв'ю газеце "Сандзі экспрэс", якое апублікавана ў нядзелю, што Еўропа распадзецца, калі нетрываламу Еўрапейскаму саюзу "будуць перашкаджаць".*

Мэйджар заклікаў палітыкаў да большай гібкасці. "Нельга стварыць маналіт з 16 дзяржаў", — падкрэсліў ён.

### АКТЫВІЗУЮЦЦА НЕАФАШЫСТЫ

*Зноў актывізаваліся італьянскія неафашысты.*

Днямі іх лідэр Джанлука Фіні на чарговым сходзе заявіў, што ў выніку высадкі саюзнікаў у чэрвені 1944 года Еўропа "згубіла свой твар і трапіла пад уплыў амерыканскага ладу жыцця".

(Працяг на 3-й стар.).

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### Авіякатастрофа ў Кітаі

*159 чалавек загінулі ўчора ў выніку авіякатастрофы.*

Сувязь з самалётам была страчана праз 8 мінут пасля ўзлёту. Зроблены ў Расіі самалёт "ТУ" накіроўваўся на поўдзень Кітая.

### Апошні шанц...

*Прадстаўнік ААН даў сербам і баснійцам апошні шанц аднавіць мірныя перамовы.*

Сербскі лідэр Караджыч запэўніў ААН, што выведзе сербскія войскі з Босніі.

### Юбілей "Еўрабачання"

*"Еўрабачанне" адзначае сваё 40–годдзе.*

Пачаўшы весці перадачы ў Жэневе ў 1954 годзе, "Еўрабачанне" стала першай сістэмай міжнароднага тэлебачання. У 1993 годзе па ёй з выкарыстаннем 4 спадарожнікаў было перададзена больш як 90 000 навін.

### Помніць Рым вызвалены...

*50 гадоў таму Рым быў вызвалены ад нямецка–фашысцкіх захопнікаў.*

Гэта падзея адбылася 15 чэрвеня 1944 года.

### "Джэнерал мотарс" на іўрыце?

*Буйное аўтабудаўнічае прадпрыемства ЗША "Джэнерал мотарс" вывучае магчымасць інвестыцый у Ізраілі.*

Амерыканцаў цікавіць перспектыва стварэння прадпрыемстваў па зборцы аўтамабіляў для продажу іх у Ізраілі і ў суседніх з ім краінах.

### Хто паклапоціцца пра бежанцаў?

*У сталіцы Нарвегіі пачалася 3–дзённая міжнародная канферэнцыя. Асноўная яе тэма — праблема бежанцаў.*

Канферэнцыя праходзіць пад эгідай ААН.

### У Чарнамырдзіна – праблемы

*Паводле паведамленняў заходніх сродкаў масавай інфармацыі, у нядзелю прэм'ер–міністр Расіі Віктар Чарнамырдзін спыніў свой адпачынак на Чорным моры.*

Ён вылецеў у Германію з-за праблем са здароўем.

### Журналістаў не любяць не толькі ў нас...

*Ахоўнік куміра брытанскіх падлеткаў — групы "Тэйк Зэт" – арыштаваны ў Аўстраліі, дзе яму прад'яўлена абвінавачанне ў нападзенні.*

Паліцыя паведаміла, што ён штурхнуў фатографа на зямлю пасля таго, як той сфатаграфаваў музыканта групы.

### Дэманстрацыя "блакітных"

*Лідэр італьянскага руху ў абарону правоў гомасексуалістаў заклікаў сусветную супольнасць байкатаваць Італію да таго часу, пакуль новы ўрад правых не дасць гарантый, што будзе абараняць правы меншасцей.*

Ён зрабіў такую заяву пад час маршу больш як тысячы "блакітных" у горадзе Балоння.

### Самая сексуальная

*Самай сексуальнай спявачкай свету гледачы MTV прызналі Джэнет Джэксан.*

Прымаючы адпаведную ўзнагароду на цырымоніі ў Лос-Анжэлесе, Джэксан заявіла: "Я думаю, што гэтую ўзнагароду заслужылі мой грымёр, цырульнік і кансультант".

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

Тэл.68-29-26 Рубрыку вядзе Святлана КУЛІКОВА Тэл.68-29-26

### Звяртайцеся ў цэнтр занятасці

*"Застаўся без працы. Скажыце, ці ёсць сэнс звяртацца ў Цэнтр занятасці насельніцтва? Цікава, колькі зараз у горадзе беспрацоўных, колькі з іх уладкавана на працу і якія ёсць вакансіі?*

**П.ПЯТРОЎСКІ, г.Мінск."**

Калі вы страцілі працу, то ў Цэнтр занятасці насельніцтва вам, безумоўна, патрэбна звярнуцца. А вось пашанцуе!

У гарадскім цэнтры занятасці насельніцтва паведамілі, што на 20 мая 1994 г. у іх стаіць на ўліку 10 279 беспрацоўных. У бягучым годзе пастаўлены на ўлік 5433 чалавекі. З іх на пераадукацыю накіравана 1076 чалавек.

У красавіку было 6287 свабодных месцаў для працаўладкавання беспрацоўных. У асноўным месцы працоўныя. Пераадукацыя вядзецца ў залежнасці ад патрэб рынку.

На 20 мая меліся вакансіі:

Прадстаўніцтва Белдзяржстраха па гораду Мінску (тэл. 26-14-48) шукае страхавых агентаў. Аплата ад колькасці заключаных дагавораў.

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі (тэл. 34-60-08) запрашае на працу галоўнага бухгалтара (420 тысяч рублёў), бухгалтара з вопытам працы ў бюджэтнай арганізацыі (300 тысяч рублёў).

Тэатру оперы і балета (тэл. 34-07-35) патрабуецца спецыяліст па тэатральных эфектах (электрамайстар). Заработная плата 237 тысяч рублёў.

РІА "Рэпрынт" (тэл. 63-71-17) запрашае на працу фатографа (тэхнічная фатаграфія). Магчымы няпоўны працоўны дзень.

### Дзе сувеніры?

*"У гэтым годзе грамадскасць нашай рэспублікі адзначае 200-годдзе нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі. Аднак у продажы чамусьці не знойдзеш ні паштовак, ні значкоў, ні вымпелаў, якія былі б прысвечаны гэтай падзеі. Складваецца ўражанне, што іх нават не выпусцілі.*

**А.КАВАЛЁЎ, г.Полацк".**

Шаноўны спадар Кавалёў амаль не памыліўся. Як гэта ні дзіўна, але сапраўды пакуль што ў нашай рэспубліцы не выпушчана ніводнага сувеніра, які быў бы прысвечаны гэтай падзеі. Звязана такое становішча з тым, што святкаванне паўстання не ўспрынялі, альбо ўспрынялі ў штыкі большасць кіраўнікоў урадавых устаноў. Аргумент для адгаворкі адзін: "Мы імкнёмся ў рублёвую зону. А вы жадаеце пасварыць нас з Масквой". Членамі нацыянальнага арганізацыйнага камітэта, які дзейнічае ўжо больш як год, быў распрацаваны шэраг эскізаў — і для значкоў, і для вымпелаў, і для памятных медалёў... Аднак арганізаваць вытворчасць яны не маглі. Звярталіся ў самыя розныя ўстановы. Аднак марна. Нават з такім папулярным сярод калекцыянераў сродкам прапаганды роднай гісторыі і культуры, як маркі, здаецца, нічога не атрымаецца. Нацыянальны камітэт выступіў з прапановай выпусціць серыю з чатырох марак. Змясціць на іх партрэты А.Т.Касцюшкі, М.К.Агінскага, Г.Ваўжанецкага і Я.Ясінскага. Адпаведнымі ўстановамі падтрымана была толькі ідэя выпуску марак з выявамі Касцюшкі і Ясінскага. Ды і іх эскізы так "абсеклі-абкарналі", што па гэтых мініяцюрах проста немагчыма будзе зразумець у сувязі з тым, з нагоды якой падзеі яны будуць выпушчаны.

Адносіны кіраўнікоў адпаведных устаноў выклікаюць здзіўленне. Яно яшчэ больш павялічваецца, калі даведваешся, што святкаванне сродкаў паўстання з'яўляецца не ініцыятывай якойсьці "падрыўной купкі інтэлігентаў", а прызнана афіцыйнымі ўстановамі. І што пры Міністэрстве культуры створан афіцыйны орган — дзяржаўны арганізацыйны камітэт. Праўда, вынікаў яго дзейнасці пакуль што не бачна.

Заўважым, што значкі ўсё ж былі выпушчаны. Праўда, у невялікай колькасці. Іх хапіла толькі на "ўзнагароду" тым, хто выступаў на навуковай акадэміі, што праводзілася ў Мінску. Аднак значкі гэтыя былі зроблены за мяжой. І на сродкі замежных нашых землякоў. Іх выпуск (як, дарэчы, і выданне кнігі Я.Юхо і У.Емяльянчыка "Нарадзіўся я ліцвінам..." ажыццёўлены за коштам культурнага асяродку "Беларусь" з горада Алма-Аты. А вось у нас ні сродкаў, ні, галоўнае, жадання рабіць штосьці не назіраецца.

### Прадаецца месца на могілках?

*"Я пераязджаю ў іншы горад і хачу забраць з могілак рэшткі сваіх бацькоў-нябожчыкаў. Ці магу я прадаць тое месца на могілках, якое вызваліцца?"*

**А.КАЙЗЕР, Мінск".**

Прадаць можна толькі тое, што набыў, а месца на могілках вы не набывалі. Зямля гэта выдзяляецца дзяржавай і, безумоўна, не ва ўласнасць, а для пахавання. І толькі рэгістравалася на некага са сваякоў нябожчыка. Так што, ні прадаць, ні падарыць яе вы не можаце. Гэта зямля застанецца ў распараджэнні дзяржавы.

### Менш, чым у Амерыцы, але больш, чым у Еўропе

*"Апошнім часам у прэсе вельмі шмат размоў: "Гледачы перасталі хадзіць у кінатэатры!" ці "Глядзяць толькі амерыканскія фільмы!", Хацелася б даведацца, якая рэальная сітуацыя ў практыцы. Што глядзяць? Ці часта ходзяць у кіно?*

**Д.РУСАКОЎ, г.Баранавічы."**

Мы сапраўды радзей сталі хадзіць у кіно. Калі ў 1980-м сярэднестатыстычны глядач наведваў кінатэатры 16 разоў у год, у 90-м гэта лічба складала ўжо 8,3, а ў 93-м усяго 1,6 — адным словам, у дзесяць разоў менш. І ўсё ж наведванне кінатэатраў у нас дастаткова высокае. Так, напрыклад, у Францыі са 100 патэнцыяльных гледачоў у кіно ходзяць 7. У Індыі, увогуле, — 2. Рэкардсменамі з'яўляюцца гледачы ЗША — 67 са 100. У нас гэта лічба меншая, чым у Амерыцы, але ўсё ж вышэйшая за сярэднееўрапейскую — цэлых 12!

Што ж датычыць фільмаў, то іх колькасць у практыцы расце. Для параўнання: 255 — у 1985 годзе і 1200 — у 1993-м! Прычым, сярод іх не так ужо мала айчынных.

## ЭСТЭТЫЧНАЯ СТУДЫЯ

# "Я люблю, калі людзі смяюцца..."

**Ірына ЗАВАДСКАЯ, "ЧЗ"**

***"Маладыя таленавітыя музыканты шукаюць саліста і спонсараў...". "Навастораны рок–гурт чакае вашай дапамогі...". "Панове бізнесмены! Дапамажыце мастацтву!..". Сярод разнастайных аб'яў у шматлікіх рэкламных выданнях падобныя "галасы" сустракаюцца не радзей за патрабаванні жылля ў абмен на "забяспечаную старасць". Безумоўна, калі–нікалі і дажджы выпадаюць па чацвяргах, але наўрад ці варта ўсур'ёз разлічваць на поспех, спадзеючыся выключна на гэтае рэдкае супадзенне. Ды й відавочна — разлічваюць, чакаюць, спадзяюцца... Між іншым, эстрада толькі завецца "лёгкім жанрам", на самай жа справе гэтая рэч — для суровых прагматыкаў. Калі да таленту артыста дадаецца яшчэ і талент дабівацца мэты (а ў пэўным сэнсе гэта таксама талент), тады, напэўна, можна смела прадказваць бліскучую кар'еру ўладальніку гэтых дзвюх выдатных якасцей. Што, дарэчы, я і збіраюся зараз зрабіць.***

У амерыканцаў ёсць такі тэрмін — "сэлф мейд мэн" — чалавек, што зрабіў сябе сам. Ледзь ці не з першых хвілін знаёмства Сяргей Наско падаўся мне якраз такім чалавекам. Не "крутым бізнесменам", што раптам занудзіўся і вырашыў "развеяцца" на эстрадзе. Наадварот, у бізнес ён падаўся менавіта для таго, каб мець магчымасць спяваць і запісваць уласныя песні, не залежачы ад нейкага там "багатага" або "ўплывовага" дзядзькі. Тры гады пайшло на тое, каб зарабіць грошай на належную апаратуру для сябе і сяброў, што неўзабаве стварылі гурт з назвай "Славяне", адлюстраваўшы ў назве сваю жыццёвую філасофію, інакш — ідэю еднасці з усімі славянскімі народамі.

Цяпер цяжка сказаць, калі ўсё пачалося, — ва ўсякім разе вельмі даўно. Гадоў дзесяць-пятнаццаць таму. Спачатку школа, потым платныя танцы, вяселлі... Напаўспрактыкаваны аматарскі ансамбль, дзе Сяргей сядзеў за барабанамі (апантанасць была, як кажуць, "яшчэ тая": нават з суседзямі ён тады знаёміўся не вельмі звычайным чынам — час ад часу яны скардзіліся на невыносны шум з суседняй кватэры). У той жа час з'явіліся і першыя песні, што напачатку выконваліся быццам творы больш-менш вядомых савецкіх аўтараў — такім чынам іх было лягчэй "прапіхнуць" на публіку. Сёння ў Сяргея ўжо больш за 50 песень, што, паводле яго вызначэння, "цягнуць" на належны песенны ўзровень.

— Людзям нельга нічога навязваць, і культуру таксама, — пераканаль Сяргей. — Нядзіўна, што працэс адраджэння адбываецца з такім скрыпам. Не трэба прыспешваць падзеі — міне час, і ўсе мы загаворым па-беларуску. Але не варта сцвярджаць, што гэта адбудзецца заўтра а пэўнай гадзіне раніцы... Менавіта таму я і не пішу песень на беларускай мове — лічу, што пакуль яшчэ не валодаю ёю ў такой ступені, каб пісаць вершы інакш, чым раней. Дзеля ж моды ці кар'еры калечыць мову не хачу. Перш за ўсё, я імкнуся да таго, каб мяне разумелі, бо галоўным у песні павінен быць яе сэнс. Песня павінна быць добрай, але не пустой...

Ягоныя песні — якраз такія. Яны падабаюцца адразу, таму што сапраўды добрыя (не лепшыя за іншых, а добрыя простай чалавечай дабрынёй), таму што на самай справе пішуцца для людзей і пра іх саміх. У адной з песень ёсць зусім цудоўныя словы: "Я люблю, калі людзі смяюцца, і я бачу, як яны плачуць...". І нашыя, і расейскія выканаўцы не раз звярталіся да Сяргея, прапаноўваючы быць іхнім аўтарам. Ён не адмаўляе. Але і не спяшаецца з галавою акунацца ў мутны вір шоу-бізнесу. Бо не хоча "ставіць на паток" уласную творчасць, імкнучыся захаваць у сваіх творах тую шчырасць і душэўнасць, што робяць іх такімі дарэчнымі ў турыстычных паходах, на сяброўскіх вячорках і на вяселлях (вельмі памыляюцца тыя, хто сцвярджае, што вясельным гасцям трэба што-небудзь зусім прымітыўнае)... Зрэшты, вы і самі, напэўна, чулі тыя песні — сёе-тое ўжо гучала па радыё, адбыліся першыя канцэрты ў Полацку, дэбют у тэлепраграме "Пяць зорак". Калі ж не чулі — пачуеце абавязкова, бо песні Сяргея Наско вартыя таго, каб іх выконвалі. Вартыя яны і таго, каб пазнаёміць нашых замежных сяброў з сучаснай беларускай культурай. Што і адбудзецца зусім хутка — пад час міжнароднай маладзёжнай экспедыцыі "Залатая карэта", якая ўлетку будзе праходзіць па шляху напалеонаўскага войска.

# Спяваючыя банкіры

Адчуваць сябе не патрэбным нікому не хочацца. А дзе яна, тая духоўная ніша, якая неабходна амаль кожнаму з нас?

Хлопцаў і дзяўчат, якія займаюцца ў студэнцкім маладзёжным клубе "Тарыф" Беларускага дзяржаўнага універсітэта народнай гаспадаркі, мне захацелася назваць спяваючымі банкірамі, вельмі ўжо задорна прадэманстравалі яны сваю знакамітую песню.

Праз некалькі гадоў удзельнікі клуба станучь сапраўднымі банкірамі. А сёння, акрамя вучобы, яны яшчэ спяваюць, танцуюць, удзельнічаюць у спектаклях.

Чаму яны сюды прыходзяць? Андрэй Лазараў:

—Я студэнт пятага курса завочнага аддзялення. Працую тут галоўным рэжысёрам. Прыйшоў сюды на першым курсе зусім выпадкова. Як толькі трапіў у гэта асяроддзе — захапіла адразу.

Які ж клуб без кіраўніка? Асабліва такога, хто не толькі дапамагае знайсці сябе, але і становіцца сапраўдным сябрам для многіх.

Знаёмцеся, Сяргей Шэлег. Чалавек таксама малады і вясёлы. Цікава, а з чаго ўсё пачалося?

— Арганізоўвалася гэта ўсё, натуральна, да мяне, таму што студэнцкія клубы існуюць з дня заснавання ВНУ. У нас ёсць многа сур'ёзных калектываў.

Няўжо так шмат талентаў сярод будучых фінансістаў? Не гуманітарыі ж....

— Так, у нашым калектыве будучыя банкіры. Я раскажу, як мы іх набіраем. Прыходзяць "зялёныя" першакурснікі пасля школы. Вось у гэты час мы бяжым хуценька па факультэтах, расказваем, што ёсць такі студэнцкі клуб. І кожны верасень у нас перабор. Але потым хтосьці адсейваецца, камусьці трэба грошы зарабляць. Але мы стараемся, каб кожнаму была роля, каб не пакрыўдзіць.

— Хто вас падтрымлівае?

— Універсітэт. У нас добры рэктар, які разумее ўсе нашы праблемы. Рэктар і сам нядрэнна спявае. Гэты чалавек дапамагае пастаянна. Цяпер новыя касцюмы заказаў ансамблю "Элегія", каля 8 млн. руб. выдзелена на апаратуру, тэлевізары, магнітафоны.

— Вы толькі перад сваімі выступаеце?

— Тут у нас асноўная база. У мінулым годзе ездзілі ў Віцебск на фестываль маладзёжная вясна.

І ўсё ж, што далей? Калі-небудзь усё роўна прыйдзецца развітацца з выступленнямі, конкурсамі, паездкамі, тэатрам... Можа адказам на гэта пытанне будуць словы, якія сказаў мне Андрэй Лазараў на развітанне.

— Мы думаем стварыць тэатр. На першым часе паўпрафесійны. Каб ён быў для нас як хобі. Гэта цяжка ва ўмовах, калі кожны задумваецца пра свой матэрыяльны дабрабыт. Але калі будзе касцяк, калі мы будзем збірацца і даваць хоць маленькія канцэрты, мы атрымаем ад гэтага задавальненне. І гледачы таксама.

**Вольга МАХОНІНА.**

# "Крэслы" і Моцарт на "Новай сцэне"

Застаецца ўдакладніць: на "Новай сцэне" Брэсцкага тэатра лялек. Менавіта так вырашана назваць сцэнічную пляцоўку для эксперыментальных, і ў нечым нечаканых, новых тэатральных пастановак. А першай з іх стаў спектакль "Крэслы" Э.Іянескі, намаганні па стварэнні якога перш за ўсе прыкладалі маладыя таленты: рэжысёр Сяргей Палешчанкаў, сцэнограф Настасся Фяцісава, а таксама акцёры брэсцкіх тэатраў — Тамара Тэвасян і Іван Герасесіч /Тэатр лялек/ і Міхась Перапечка /Тэатр драмы/. І, бадай, яшчэ Моцарт, маладосць якога не аспрэчваецца...

Што атрымалася з такога нетрадыцыйнага супрацоўніцтва — ужо маглі пераканацца гледачы на прэм'еры: напружаная дзея на працягу 1,5 гадзіны ў літаратурным сэнсе трымае залу. А на сцэне ў гэты час Стары і Старая прымаюць Гасцей-Крэслы, пакуль не прыходзіць, нарэшце, да іх сам Імператар. Што могуць сказаць яны, калі жыццё пражыта і пражыта, магчыма, дарэмна й недарэчы?.. Не, няхай лепей скажа Прамоўца, толькі й ён маўчыць, пільна ўглядаючыся ў залу, углядаючыся ў кожнага з нас... І гучыць у фінале "Рэквіем" Моцарта, і аддаляюцца ад нас Стары і Старая, і толькі крэслы, крэслы вакол нас...

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. Міхась ПЕРАПЕЧКА /Стары/ і Тамара ТЭВАСЯН /Старая/. Фота Уладзіміра ДОЛЬКІНА.**

# Чарговы тэатр – у Оршы

Званне "народнага" калектыў аршанскага самадзейнага тэатра Дома культуры чыгуначнікаў заваяваў 33 гады назад за паказ на Крамлёўскай сцэне спектакля па п'есе А.Маўзона "Канстанцін Заслонаў".

З таго часу артысты тэатра дастойна нясуць ганаровае званне. Калектыў тэатра гастраляваў не толькі па былому Саюзу, але і за рубяжом. Асаблівы гонар тэатра ў тым, што тут у свой час побач з аматарамі ў спектаклях ігралі народныя артысты СССР Б.Платонаў, З.Стома, народны артыст рэспублікі К.Саннікаў. А заслужаная артыстка рэспублікі К.Міронава адыграла ў самадзейным калектыве 18 год.

У хуткім часе Орша атрымае свой гарадскі тэатр. Ім стане пасля рэканструкцыі клуб аб'яднання "Оршабудматэрыялы".

**Яўген БРАЖЫЦКІ.**

## з гісторыі Беларусі

# 1812 ГОДА

Смаленска адбіваў атакі французаў, а працягваліся яны тры дні. У гэтай бітве праціўнік страціў у два разы больш салдат, чым рускія. У адной з атак Чарняеў быў паранены ў левую руку, але не пакінуў поля бою. За гэты мужны ўчынак ён быў узнагароджаны ордэнам Святой Анны 3-й ступені.

Ад спаленай Масквы Напалеон вырашыў адступаць па Калужскай дарозе праз багатыя паўднёвыя губерні. Але прадбачлівы М.І.Кутузаў рашыў даць бой пад Малаяраслаўцам 24 кастрычніка. Два дні супрацьстаялі дзве арміі. У гэтай бітве Рыгор Чарняеў зноў вызначыўся. Атрымаў ордэн Святога Уладзіміра і залатую шпагу з надпісам "За храбрасць".

З гэтага часу наш зямляк стаў камандзірам Новаінгерманладскага палка. Ён і яго салдаты бачылі спустошаныя вёскі Віленскай губерні, перасеклі мяжу і апынуліся ў Варшаўскім герцагстве. Калі прыйшлі на саксонскую зямлю, зноў запахла порахам. Полк Чарняева змагаўся пад Дрэздэнам, удзельнічаў у трохдзённай бітве пад Лейпцыгам. Узяўшы блакадай крэпасць Везель, іншыя гарады, Рыгор Чарняеў скончыў свой баявы паход у Еўропу ўваходам у Парыж. Думаў, што неўзабаве вернецца дамоў, але... на некалькі гадоў затрымаўся ў Францыі.

Вясной 1814 года Чарняеў займаў пасаду ваеннага губернатара Люневіля, галоўнага горада Латарынгіі. Ён уступаў у службовыя кантакты з жыхарамі, і яму тут якраз спатрэбілася веданне французскай мовы, якую ён вывучаў у Шклове. Чарняеў быў вытрыманым, добразычлівым чалавекам і хутка заслужыў павагу гарадскіх улад. У адным з дакументаў адзначаецца, што ён сваімі дзеяннямі забяспечыў жыхароў "выключным спакоем, поўнай недатыкальнасцю іх асоб і маёмасці". Доўгі час маёр Чарняеў з'яўляўся камендантам горада Валансьена, які знаходзіўся на мяжы з Бельгіяй, часта бываў у іншых гарадах Францыі. У прыгожым правінцыяльным гарадку Лекенуа ён пазнаёміўся з дачкой мэра Эсфірай Лекюйе, швагеркай Ж.Э.Буланжэ. Яна так зачаравала рускага афіцэра, што ён адразу рашыў: гэта і ёсць падарунак лёсу. У лістападзе 1818 года закаханыя пажаніліся.

Яшчэ два гады Чарняеў пратрымаўся, а потым яго нястрымна пацягнула на радзіму. Ён выйшаў у адстаўку і пачаў збірацца ў дарогу. Адно непакоіла: Эсфіра вельмі любіла бацькоў, была не прыстасавана да будзённага жыцця і не ведала рускай мовы. Але супраць паездкі яна не сказала ніводнага слова. Разам з ёю паехала яе сяброўка і прыслужніца Сафі.

Ад Талачына павозка пакацілася па вузкай палявой дарозе. Верставыя слупы, бярэзнікі, палі і ўзгоркі. Спусціліся ўніз — цячэ рака Друць. А за ёй, наверсе, — маёнтак Крывая. Спынілі коней. Рыгор Мікітавіч паказаў жонцы мясціны, дзе ён нарадзіўся, і паехалі далей, аж у Тубышкі, дзе ў той час жылі сваякі Чарняевых. У новым маёнтку жыў брат Пётр Мікітавіч з жонкай Касільдай Міхайлаўнай. Трэба ж такому здарыцца — брат неўзабаве памёр, яго жонка з'ехала ў горад. Адзіным гаспадаром маёнтка стаў Рыгор Чарняеў са сваёй француженкай. Здзіўленая беднасцю і неахайнасцю мясцовых сялян, курнымі хатамі, яна растлумачвала ім, што акуратнасць — неабходная ўмова для аховы здароўя. У 1821 г. у Тубышках Эсфіра нарадзіла першага сына, якога назвалі Філіпам у гонар яе бацькі.

Праз тры гады Рыгор Чарняеў пад уплывам жонкі і з-за гаспадарчых непаладкаў пайшоў на службу і быў назначаны паліцмайстрам горада Ізмаіла, куды і выехаў з сям'ёй. Служыў самаадданна, спраўна, за што і быў узнагароджаны ордэнам Святой Анны 2-й ступені з алмазамі. У хуткім часе па прадпісанню мясцовага генерал-губернатара І.С.Варанцова Чарняеў перамяшчаецца на пасаду Бесарабскага обер-фарштмайстра, пераязджае ў горад Бендэры, што размясціўся на Днястры. Тут у сям'і Р.М.Чарняева нарадзіліся дачка Аляксандра і ў 1828 годзе сын Міхаіл, слабенькі і хваравіты хлопчык (будучы знакаміты царскі генерал, герой сербскай вайны, сябар Ф.М.Дастаеўскага).

Эсфіра прагнула пабачыцца са сваімі роднымі, Рыгору хацелася сустрэцца з краінай свайго баявога юнацтва. Пры першай магчымасці яны паехалі ў Францыю. Наведвалі старых Лекюйе, якія жылі ў Лекенуа, аб'язджалі сваякоў у розных гарадах. У час падарожжа ў Валансьен у іх нарадзілася дачка Елізавета, любімая сястра Міхаіла.

У Францыі было цудоўна. Але вабілі, клікалі Рыгора Мікітавіча родныя берагі. І найперш рачулка Вабіч, што працякала праз маёнтак Тубышкі. У пачатку 30-х гадоў XIX стагоддзя ён зноў вярнуўся сюды з чужых краёў і сур'ёзна заняўся аднаўленнем гаспадаркі, саду. Перш за ўсё ён пабудаваў для мясцовых сялян невялікі мураваны храм у імя Свяціцеля Мікалая, наладзіў прыход. Збіраўся пабудаваць вялікі дом з цэглы. Іншы раз хадзіў з сынам Міхаілам у лес на паляванне, вучыў яго грамаце, прывіваў любоў да гістарычных кніг. Калі Рыгора Чарняева запрасілі на святкаванне 25-годдзя Барадзінскай бітвы, ён паехаў туды разам з дзесяцігадовым Мішам. Несумненна, баявыя ўспаміны бацькі пра вайну, пра Міхаіла Кутузава, Пятра Баграціёна, убачанае на гістарычным Барадзінскім полі зрабілі на сына вялікае ўражанне, абудзілі яго цікавасць да ваеннай дзейнасці. Ад бацькі ён успрыняў запаветы сапраўднай любві да Бацькаўшчыны, у імя якой смела рызыкаваў сабой на працягу ўсяго свайго жыцця.

Міхаіл ганарыўся сваім бацькам. Высакароднасць, адукаванасць, неабыякавасць да простага салдата ці селяніна вызначалі яго сярод іншых. Чыноўнікі вельмі цанілі яго выключную адказнасць за даручаную справу. У 1841 годзе па запрашэнню князя Міхаіла Варанцова ён пачаў служыць начальнікам горада і порта Бярдзянска, які стаіць на Азоўскім моры. Чарняеў прыняў некалькі рыбацкіх хацін. Ён пабудаваў гасцінны двор, вялікую саборную царкву, жылыя дамы. Дзякуючы яго намаганням была адкрыта Бярдзянская мытня, горад упрыгожыўся садам, які ўтрымліваўся ва ўзорным парадку.

Калі пачалася Крымская вайна і ў маі 1855 года варожая эскадра паказалася на бярдзянскім рэйдзе, Чарняеў адправіў сваю жонку з дзецьмі за сто вёрст у сяло Вялікі Такмак, дзе яны пражылі да верасня, а сам неадлучна знаходзіўся на баявым пасту. Жыхары пакінулі горад. Рыгору Мікітавічу, у распараджэнні якога было ўсяго 150 казакоў, было загадана ў выпадку нашэсця непрыяцеля спыніць яго сілай зброі. 70-гадовы палкоўнік, змучаны старымі ранамі, некалькі месяцаў жыў у спустошаным горадзе пад артылерыйскім агнём ворага.

У лістападзе таго ж года на месца нашага земляка быў прысланы палкоўнік Дзелаво. Гэта, зразумела, вельмі зняважыла старога. Ён рашуча патрабаваў усебаковага разбору. Сын Міхаіл не застаўся абыякавым да несправядлівасці, якая злосна звалілася на састарэлага бацьку. 19 студзеня 1857 года з горада Магілёва ён звярнуўся з вялікім пасланнем да князя Васільчыкава, у якім, у прыватнасці, пісаў: "...Марнеючы больш як год аднымі чаканнямі, ён страціў надзею дажыць да свайго апраўдання. Маючы права і прызнаючы сябе абавязаным быць хадайнікам бацькі свайго, я вырашыў звярнуцца да вашай вялікасці, просячы для яго не падачкі, а адной справядлівасці і законнай адплаты за яго паўвекавую бескарыслівую службу, за яго раны".

Вядома, не апошні кій у старца адбіралі, але абараніць тое, што было зроблена, — справа гонару. І праўда перамагла. Вынік камісіі быў прыемным і нават нечаканым: апраўданне Р.М.Чарняева і выхад яго ў адстаўку з узвядзеннем у званне генерал-маёра.

Выйшаўшы ў адстаўку, Рыгор Мікітавіч працягваў жыць у Бярдзянску, у сваім доміку з садам. Разам з ім жыла жонка, адданая Сафі і дзве малодшыя дачкі — Надзея і Ганна, якія назаўсёды засталіся пры бацьках. Астатніх дзяцей жыццё раскідала па свеце. Сюды зрэдку прыязджаў сын Міхаіл, пайшоўшы па слядах бацькі. У 1869 годзе ён прыехаў у апошні раз, каб пахаваць Рыгора Мікітавіча Чарняева, схіліць галаву перад дарагім чалавекам, сапраўдным героем Айчыннай вайны 1812 года.

Шмат сыноў Беларусі служыла ў розных куточках Расіі, здабываючы ёй славу і павагу. І дзе б яны ні жылі, дзе б ні знайшлі сваё супакаенне, наша Бацькаўшчына, як родная маці, памятае кожнага. Бо яны — часцінка агульнай гісторыі, сумеснага змагання, працавітасці, добразычлівасці.

## КАЗКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

# Пра калабок

Спяклі аднойчы заакіянскія Дзед ды Баба гуманітарны Калабок. Ды не проста, а з унутранай разнастайнай начынкай. Божа, чаго толькі яны туды не запіхнулі: і відэаапаратуру самую сучасную, і тэлевізары-халадзільнікі разнастайныя, і адзенне моднае, шыкоўнае, і, нарэшце, нават прысмакі-ласункі ўсялякія, з тых, што так часта па тэлебачанні рэкламуюць. Во які добры Калабок атрымаўся!

Паклалі яго заакіянскія Дзед з Бабай на падаконнік і кажуць (па-ангельску, вядома):

— Каціся цяпер, Калабок-Калабочак, за моры глыбокія, за горы высокія, за лясы дрымучыя, аж да самага глухога палескага куточка. Жыве-пажывае там Заяц-даўгавухі, ды і не проста жыве, а на забруджанай тэрыторыі. Аднясі яму наш падарунак, хай крышачку парадуецца небарака.

— О'кэй! — весела ўсклікнуў Калабок (таксама па-ангельску) і пакаціўся сабе. З песняй (амерыканскай, вядома).

Доўга ці коратка каціўся гэты самы Калабок, але ў рэшце рэшт перакаціўся ён праз дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь. І толькі перакаціўся, як да яго Мядзведзь падыходзіць.

— Я Калабок, Калабок! — горда адказвае Калабок (па-беларуску ўжо). — І не просты Калабок, а гуманітарны. А качуся я да Зайца даўгавухага на забруджаную тэрыторыю. Э, э! Ты што гэта робіш, касалапы?!

А Мядзведзь запусціў усе свае чатыры лапы ў калабковае начынне і адным разам выграб адтуль усю відэаапаратуру разам з паловай тэлевізараў-халадзільнікаў.

— А гэта яшчэ навошта? — не разумее Калабок (замежныя, яны ўсе такія, някемлівыя). Мы так не дамаўляліся!

Мядзведзь з ім, з дурнем больш размаўляць не стаў. Развярнуўся ды як дасць таўхаля! Ды такога, што наш Калабок да самага абласнога цэнтра без перадыху ляцеў. Толькі спыніўся, а яго ўжо Воўк чакае.

— Ану, паказвай, — кажа, — што тут Мядзведзь на маю долю пакінуў! — І не паспеў Калабок нават слова вымавіць, як у Ваўка ў лапах апынуліся ўсе астатнія тэлевізары-халадзільнікі. Амерыканскай вытворчасці, між іншым.

Уздыхнуў Калабок і, ні слова не кажучы, далей памчаўся.

—Хоць адзенне, — думае, — да Зайца данясу. Разам з прысмакамі-ласункамі заморскімі. І таго не ўлічыў Калабок, што шлях яго яшчэ і праз райцэнтр прайсці павінен. А там Ліса жыве. Убачыла яна Калабка і адразу ж аблізвацца пачала.

— Ты ж хоць усё не выграбай, — просіць яе Калабок. — З чым жа я да Зайца з'яўлюся?! Хоць што пакінь!

— Як табе не сорамна так кепска пра мяне думаць! — аж абурылася Ліса. — Ды я ж толькі адзенне і ўзяла! Ну, яшчэ прысмакі гэтыя самыя. Усё роўна Заяц да іх непрывычны. У яго б ад іх зубы балелі. А самую неабходную рэч я якраз і пакінула. Во, глядзі!

Паглядзеў Калабок у сваю былую начынку, а там ляжыць адзін-адзіны дазіметр. Хоць маленькі, але ж японскай вытворчасці...

**Генадзь АЎЛАСЕНКА.**

